# ПАГОНЯ

Чацвер
12 жніўня 1999 г.
№ 50 (427)
Кошт 25.000 руб.


## Беласток ад нас адварочваецца

**Пабрацімскія сувязі з трыма замежнымі гарадамі мае сёння Гродна. Сярод яго парбрацімаў — Міндэн (Германія), Лімож (Францыя) і Беласток (Польшча).**

Як паведамілі ў Гарадзенскім гарвыканкаме, найбольш партнёрскія адносіны ўсталяваліся цяпер з Міндэнам, дзе існуе Таварыства нямецка-ўсходнееўрапейскіх сувязяў па абмену студэнтамі і моладдзю ў галіне культуры. Гэтую грамадскую арганізацыю ўзначальвае Вольфганг Грацынгер. Падчас Вялікай Айчыннай вайны ягоны бацька ваяваў у Беларусі ў складзе войскаў Вермахта, таму спадар Вольфганг лічыць сваім пачэсным абавязкам усяляк спрыяць развіццю стасункаў паміж Беларуссю і Германіяй у розных галінах.

Што тычыцца супрацоўніцтва з іншымі гарадамі-пабрацімамі, то сувязі з французскім Ліможам сёння абмежаваныя практычна толькі на ўзроўні сярэдняй школы N 8, дзе французская мова з'яўляецца прафіліруючай. У дні канікул абмен школьнымі групамі працягваецца.

А вось з суседнім Беластокам адносіны амаль замарожаныя. Намеснік старшыні Гарадзенскага гарвыканкама Яўген Жабрун лічыць, што такое становішча ўзнікла па віне польскага боку: прапанаваная імі рэдакцыя пагаднення аб супрацоўніцтве, паводле ягоных словаў, больш нагадвае пратакол аб намерах, чым напоўнены канкрэтыкай дакумент. Пахаладанне ў адносінах, падкрэсліў гарадзенскі кіраўнік, назіраецца з таго часу, як Польшча стала членам NATO.

**Антон Лабовіч**

## Апаганілі мячэць

**Увечары 9 жніўня невядомыя асобы апаганілі мячэць горада Слонім.**

Як паведамілі ў Слонімскай арганізацыі Беларускага аб'яднання татар-мусульман «Аль-Кітаб», каля 22.00 людзі, якія жывуць побач з мячэцю, пачулі звон бітага шкла ў мусульманскім малітоўным доме і выклікалі міліцыю, якая адразу ж ачапіла раён. Пра здарэнне было паведамлена старшыні Слонімскай арганізацыі «Аль-Кітаб» Сулейману Байрашэўскаму. Асобы, якія ўчынілі акт вандалізму, перабілі значную частку шыбаў мячэці ды спрабавалі пранікнуць унутр, пра што сведчыць сарваная з петляў і кінутая ў памяшканне ўнутраная віконная рама.

Кіраўніцтва мясцовай арганізацыі «Аль-Кітаб» не выключае, што пагром, учынены ў будынку мячэці, мог быць прымеркаваны да з'езда татарскай моладзі Беларусі, які плануецца правесці ў Слоніме 14 жніўня. Да ўдзелу ў ім запрашаны юнакі ды дзяўчыны 25-ці татарскіх абшчынаў Беларусі, а таксама госці з Польшы і Літвы. Напярэдадні, 13 жніўня, у Слоніме прадугледжвалася ўрачыста адзначыць 5-годдзе адраджэння мясцовай мячэці, адноўленай пры падтрымцы мецэнатаў з арабскіх краін і Турцыі ў 1994 годзе.

Трэба адзначыць, што Слонімская мячэць стала першым ісламскім рэлігійным цэнтрам, які з'явіўся ў Беларусі пасля 60-гадовага перапынку. Як заявілі ў слонімскай арганізацыі «Аль-Кітаба», нягледзячы на гэты акт вандалізму, з'езд татарскай моладзі адбудзецца ў адпаведны тэрмін.

**Марат Гаравы**

### НАДВОР'Е

**13 і 14 жніўня** чакаецца пераменная воблачнасць, дажджы. Вецер паўднёва-заходні, 3-8 м/с. Тэмпература паветра ўначы +10...+12, удзень +23...+25.

# Жыла для Беларусі

**Выдатная беларуская паэтка Ларыса Геніюш (дзявочае прозвішча Міклашэвіч) нарадзілася ў заможнай сялянскай сям'і ў 1910 годзе ў былым засценку Жлобаўцы Ваўкавыскага павета. Яшчэ ў дзяцінстве яна спазнала ростань з Бацькаўшчынай, роднымі, мілымі сэрцу краявідамі: у час першай сусветнай вайны сям'я Міклашэвічаў эвакуіравалася ў Расію. Прайшлі гады ліхалецця, і Міклашэвічы зноў вярнуліся ў родныя мясціны, дзе прадоўжылі працаваць на сельскай гаспадарцы. У вёсцы Гудзевічы (цяпер Мастоўскі раён) Ларыса Геніюш скончыла чатыры класы. Потым працягнула вучобу ў Ваўкавыскай польскай жаночай гімназіі.**

У 1935 годзе Ларыса Антонаўна выйшла замуж за зэльвенскага хлопца Івана Геніюша, які ў той час быў студэнтам лекарскага факультэта Пражскага універсітэта. Але пасля яго заканчэння месца працы ў Заходняй Беларусі яму знайсці не ўдалося, таму ў канцы 1937 года маладая сям'я вымушана была шукаць шчасця за мяжой: Геніюшы пераехалі ў Прагу. Яшчэ ў гімназіі Ларыса Геніюш пачала пісаць вершы, і цяпер, калі яна апынулася далёка за межамі Бацькаўшчыны, якую так моцна любіла, вершы пісаліся з асаблівым творчым натхненнем. Гэта былі вершы, у якіх паэтка марыла аб лепшай долі для свайго краю, услаўляла мужнасць і самаахвярнасць яго барацьбітоў. У 1942 годзе ў Празе выйшаў першы паэтычны зборнік Ларысы Геніюш «Ад родных ніў», у якім адчувалася туга па Радзіме, пераважала інтымная і пейзажная лірыка. У 1995 годзе выйшла факсімільнае выданне гэтага зборніка.

У Празе на той час асела беларуская эміграцыя, якую ўзначальваў прэзідэнт Рады БНР Васіль Захарка - родам з вёскі Дабрасельцы, што на Зэльвеншчыне. Для Ларысы Антонаўны ён быў не толькі земляком. Яны вельмі шчыра сябравалі, і дзядзька Васіль, як яго называла паэтка, быў для яе як бацька і дарадца.

Геніюшы актыўна ўключыліся ў дзейнасць урада БНР, Ларыса Антонаўна нават нейкі час была яго генеральным сакратаром.

У 1948 годзе Геніюшы былі пазбаўленыя чэхаславацкага грамадзянства, а пятага сакавіка гэтага ж года Ларыса Антонаўна разам з мужам была арыштавана і пад канвоем адпраўлена ў Мінск. А яе дванаццацігадовы сын Юрка застаўся ў Празе пад апекай польскага пасла. У Мінску допыт вёў сам Цанава, патрабуючы архіў Рады БНР. Прымушаў яе размаўляць на рускай мове. Ларыса Антонаўна прапанавала яму запрасіць перакладчыка, калі не разумее мовы таго народа, над якім вяршыць суд. У лютым 1949 года Ларысу і Івана Геніюшаў судзіў Вярхоўны суд БССР, які прыгаварыў паэтку і яе мужа да 25 гадоў папраўча-працоўных лагераў.



Ларыса Геніюш

Трагічным быў лёс сям'і Ларысы Геніюш. Бацька Антон Паўлавіч у верасні 1939 года быў арыштаваны і прапаў бясследна ў гарадзенскай турме. Маці Аляксандра Васільеўна, вывезеная з дзецьмі ў 1945 годзе ў Казахстан, памерла ад голаду. Браты яе апынуліся ў арміі Андэрса. Пасля вайны Аляксей жыў у Англіі. Там засталася ягоная сям'я. Аркадзь загінуў у баях з фашыстамі ў Італіі пад Монта-Касіна. Расціслаў у красавіку 1945 года загінуў пад Берлінам.

Сын Юрка Геніюш працаваў у Беластоку лекарам. На Беласточчыне ён вядомы як паэт і празаік. Памёр у 1985 годзе. У 1994 годзе ў Беластоку выйшла кніга яго твораў «З маёй званіцы». Нявестка Валянціна і ўнукі Міхась і Юрка жывуць цяпер у Беластоку.

Пакаранне Геніюшы адбывалі спачатку ў мінскім астрозе, а потым у Комі АССР, Варкуце, Мардоўскай АССР. Нягледзячы на жахлівыя ўмовы жыцця, Ларыса Антонаўна не развіталася з паэзіяй. Патаемна перапісвалася вершамі са слонімскім краязнаўцам і паэтам Васілём Супруном, які таксама адбываў свой тэрмін зняволення ў сталінскім ГУЛАГу. Яе вершы, напісанныя для зняволеных, былі як лекі. Палітвязні называлі іх «глюкозай», завучвалі на памяць. На жаль, з турэмнай спадчыны многія вершы не захаваліся.

Тэрмін пакарання Ларысы Геніюш быў зменшаны да васьмі гадоў, якія яна ўжо адбыла. І 10 чэрвеня 1956 года паэтка была вызвалена з лагера. Прыехала ў Зэльву, дзе захаваўся дом мужа: ён і цяпер стаіць на Савецкай вуліцы, насупраць царквы. Сюды ж хутка пасля высылкі вярнуўся і яе муж. Іван Пятровіч працаваў лекарам зэльвенскай раённай бальніцы, а Ларыса Антонаўна засталася беспрацоўнай. Так і пражылі яны ў Зэльве да смерці, не прыняўшы савецкага грамадзянства...

Ларыса Геніюш - паэтка незвычайнага і трагічнага лёсу, пра які яна паспела сама расказаць у сваёй балючапраўдзівай «Споведзі». У яе заўжды было шмат сяброў на ўсіх кантынентах -прыхільнікаў яе творчасці і таленту. Адзін з іх - навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН Беларусі, кандыдат гістарычных навук Міхась Чарняўскі. Аднойчы, прыехаўшы ў Зэльву, пры сустрэчы ён прапанаваў Ларысе Антонаўне напісаць аб тым, што памятала, што перажыла. Як высветлілася, яна ўжо працавала над успамінамі.

Міналі гады. І вось летам 1982 года Ларыса Геніюш перадала рукапіс з успамінамі Міхасю Чарняўскаму, сказаўшы: «Рабіце з гэтым, што хочаце. Я вам давяраю, Міхаська». Успаміны былі надзейна схаваны. Яны чакалі свайго часу. А ў 1990 годзе Міхась Чарняўскі апублікаваў іх пад назвай «Споведзь» у часопісе «Маладосць»(NN 1-6). У 1993 годзе выдавецтва «Мастацкая літаратура» надрукавала «Споведзь» асобнай кніжкай.

Зборнікі яе вершаў выдаваліся ў Беластоку і ў Лондане. Але далёка не ўсё яшчэ вядома і выдадзена, што ёю напісана, многія вершы згубіліся на старонках замежнага друку, недаступным сучаснаму чытачу, і не ўвайшлі ні ў адну з яе кніг, а сотні засталіся ў рукапісах на руках у прыватных асобаў.

Памерла Ларыса Геніюш сёмага красавіка 1983 года. У апошні шлях праводзіў яе ўвесь навакольны люд. Ён добра ўсвядоміў, што Ларыса Антонаўна - маці нацыі: яна ў найцяжэйшыя часы падала ўсім прыклад, як трэба пераадольваць невыносныя пакуты жыцця, захоўваць чалавечую годнасць, веру ў дабро і справядлівасць. Яны душой адчувалі, што па паходжанню была паэткай з тых простых людзей, якія прыйшлі развітацца з ёю. Некралог аб яе смерці асмеліхася даць толькі адна рэспубліканская газета - «Літаратура і мастацтва».

Ларыса Геніюш спачыла побач з мужам Янкам Геніюшам. Над іх магіламі зараз узвышаецца адзін агульны помнік з крыжам Ефрасініі Полацкай, на якім звычайныя надпісы: прозвішчы, даты нараджэння і смерці. А на магільнай пліце - словы з яе верша:

*З беларускай учэпістай*
*гліны*
*І з рабра прынямонскіх*
*вярбін*
*Я галінка ля белага тыну*
*Напалову забытых*
*святынь.*

**Пётр Марціноўскі**

## «Сем Я» атрымае дапамогу

**Сёння Гродна наведае дэлегацыя міжнароднай дабрачыннай арганізацыі «Ад сэрца» ў складзе трыццаці валанцёраў амерыканскай хрысціянскай дабрачыннай арганізацыі «Джош МакДауэл Міністры».**

Міжнародная дабрачынная арганізацыя «Ад сэрца» сёмы год працуе ў Беларусі, Расіі ды на Украіне. У Менску адкрыта яе прадстаўніцтва. Дэлегацыя прывязе ў Гродна гуманітарную дапамогу для пацыентаў абласной дзіцячай клінічнай бальніцы, цэнтра рэабілітацыі дзяцей-інвалідаў, а таксама абласнога аб'яднання шматдзетных сем'яў «Сем Я». Яны атрымаюць прыкладна 500 пасылак з рэчамі, што сабралі амерыканскія дзеці. У гарадскім Доме культуры адбудзецца сустрэча са шматдзетнымі сем'ямі. Акцыя праводзіцца з удзелам гарадзенскіх суполак Евангелічных хрысціян-баптыстаў і Царквы хрысціянаў Поўнага Евангелля «Новае жыццё», а таксама адпаведных аддзелаў гарвыканкама.

**Антон Лабовіч**

## Паважаныя спадары!

**Запрашаем Вас прыняць удзел у дабрачыннай акцыі «Наш горад». Акцыя праводзіцца паводле ініцыятывы Гарадзенскага прафсаюза грамадзян прадпрымальнікаў і асобаў, якія працуюць па найму, Аб'яднанай Грамадзянскай партыі Гарадзенскай вобласці, Гарадзенскага гарадскога цэнтра абароны праву спажыўцоў, таварыства «Ліон» і Гарадзенскай гарадской арганізацыі - Беларускай Арганізацыі Працоўных жанчын (БАПЖ).**

Дабрачынная акцыя «Наш горад» пачалася ў Гродне ў 16.00 21 ліпеня 1999 года са свята «Дэмбель-99», які праходзіў каля Лялечнага тэатра (недалёка ад плошчы Леніна). Прадпрымальнікамі была арганізавана раздача шарыкаў (больш за 1000 штук) і цукерак.

Да канца 1999 года мы плануем правесці яшчэ некалькі дабрачынных буйнамаштабных акцыяў.

План мерапрыемстваў на першую палову жніўня 1999 года:

- чацвер (12 жніўня) і 14 жніўня - будзе праводзіцца збор рэчаў і грашовых сродкаў на рынку «Паўднёвы»;
- пятніца (13 жніўня) - будзе праводзіцца збор рэчаў і грашовых сродкаў на цэнтральным рынку ды іншых рынках горада;
- з 7 па 15 жніўня - збор і размеркаванне рэчаў па канкрэтных адрасах.
- 15 жніўня (нядзеля) у 13.00 - раздача рэчаў, шарыкаў, цукерак, марожанага дзецям і маламаёмасным (рынак «Паўднёвы», асфальтаваная пляцоўка паміж аўтобуснай стаянкай і харчовым міні-рынкам).
- 15 жніўня (нядзеля) у 17.00 - раздача шарыкаў, цукерак, марожанага, бясплатных білетаў на карусэлі (за кошт сродкаў прафсаюза) дзецям (парк імя Жылібера, каля Лялечнага тэатра).

Плануецца: падрыхтаваць 80 тысяч запрашэнняў і білетэняў «Наш горад»; закупіць 200 (+1000 - пра наяўнасці сродкаў) білетаў на карусэлі і раздаць іх дзецям; купіць 5 тысяч шарыкаў, марожанага і цукерак.

Кантактныя тэлефоны: тэл/факс (0152) 72-00-72, 31-30-62, пэйджэр (0152) 73-00-00 (для абанента N95200).

**Валерый Леванеўскі**

# На вайне як на вайне

**31 ліпеня - 1 жніўня ў Мінску адбыўся VI з'езд Беларускага Народнага Фронту «Адраджэнне». Яго вынікі засведчылі, што раскол у самай дзеяздольнай і паслядоўнай арганізацыі нацыянальна-дэмакратычнага кірунку -справа сёння амаль вырашаная. З жалем даводзіцца канстатаваць, што рукамі саміх фронтаўцаў паспяхова робіцца антыбеларуская справа, якая аказалася не пад сілу А.Лукашэнку і яго карнаму апарату.**

Можа стацца, што свае 11-я ўгодкі Фронт будзе сустракаць, як падробленая на варагуючыя часткі, пагрузлая ў дробных разборках, малаўплывовая арганізацыя. І гэта напярэдадні лёсавызначальнага для Беларусі моманта, калі каланіяльная адміністрацыя і страціўшы легітымнасць Лукашэнка паспрабуюць рэальна ажыццявіць інкарпарацыю нашай краіны ў склад Расейскай Федэрацыі.

Паверыць, што ўсё гэтае адбываецца без непасрэднага ўплыву зацікаўленых у разбурэнні нацыянальна-вызвольнага руху краіны службаў, немагчыма. Асабліва калі ўлічыць, што падобным чынам напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў на Украіне былі расколаты і паслаблены партыі нацыянальна-вызвольнага кірунку: Народны Рух Украіны ды Рэспубліканская партыя.

Безумоўна, нельга перабольшваць сілу такога ўплыву. Для кансалідаванай і паспяховай арганізацыі ён не можа быць вызначальным. Але ж сёння імунітэт БНФ значна паслаблены ўнутранымі праблемамі.

Дазволю сабе тут толькі самы павярхоўны іх аналіз. Частка праблемаў звязана з працяглым знаходжаннем старшыні Фронту за межамі Бацькаўшчыны. Як сябру сойма БНФ «Адраджэнне», мне даводзілася на працягу двух апошніх гадоў назіраць паступовую дэградацыю стылю кіраўніцтва арганізацыі, разлад і зняверанасць у шэраговых сябраў. Арганізуючы пачатак, які ўносіў у работу Фронту Зянон Пазьняк, пасля яго ад'езду катастрафічна зменшыўся. Да таго ж мне падаецца, што ў новых варунках інтарэсы З.Пазьняка, як лідара БНФ, не заўсёды супадалі з інтарэсамі самой арганізацыі, што не магло не паўплываць на яго папулярнасць і аўтарытэт.

З другога боку, сярод намеснікаў старшыні на Беларусі разгарнулася барацьба за ўплыў на лідара, барацьба «за тэлефон і факс». Гэта паступова прывяло да таго, што адлучаныя ад «цела» старшыні намеснікі пачалі ўсё больш праяўляць схільнасць да аўтаномных і няўзгодненых дзеянняў Прычым, лідар «апазіцыянераў» Юры Хадыка (Вінцуку Вячорку больш падабаецца роля шэрага кардынала, чым адкрытага правадыра) непрыхавана дэманстраваў незадаволенасць дзейнасцю старшыні арганізацыі. У гэтым, на мой погляд, не было б нічога дрэннага (дэмакратыя ёсць дэмакратыя), але ж і ў выпадку з Хадыкай інтарэсы Фронта часцяком падалі ахвярай інтарэсаў асабістых або групавых.




На гэтым фоне адсутнасць працяглы час сур'ёзных поспехаў у дзейнасці Фронту не магла не прывесці да крызісу. Аднак гэта, паўтаруся, чыста знешнія прычыны. Сапраўдныя ж прычыны фронтаўскага крызісу значна глыбейшыя і палягаюць, на мой погляд, у тэарэтычных праліках. Але пісаць пра іх тут не выпадае.

Непасрэдна на З'ездзе барацьба за кантроль над арганізацыяй набыла вырашальны характар. У першы дзень прыхільнікі З.Пазьняка мелі яўную перавагу падчас абмеркавання справаздачаў старшыні і яго намеснікаў. Аднак на другі дзень, вырашаючы пытанне аб новым старшыні Фронту, група Хадыкі-Вячоркі правяла скаардынаваную, добра прадуманую ў псіхалагічным плане (адчуваецца ўплыў Падгола) і таму паспяховую атаку на пазіцыі З.Пазьняка. Ажно пяцёра кандыдатаў на пасаду старшыні знялі свае кандыдатуры на карысць В.Вячоркі, не забываючыся пры гэтым падкрэсліць яго станоўчыя якасці ды прайсціся па недахопах З.Пазьняка.

Тым не меней, галасаванне выявіла нязначную перавагу З.Пазьняка (156 галасоў) над В.Вячоркай (152). Праўда, на З'ездзе было заяўлена, што для перамогі патрэбна было набраць 161 голас. Таму пытанне аб старшыні засталося нявырашаным да маючага адбыцца ў кастрычніку працягу З'езда. У той жа час статут БНФ не дае пэўнага адказу на ўзнікшую калізію, што дазволіла З.Пазьняку заявіць аб сваёй поўнай перамозе. У гэтых варунках паўстае пытанне аб здольнасці бакоў да кампрамісу дзеля захавання адзінства арганізацыі.

Трэба адзначыць, што ў прапановах З.Пазьняка З'езду быў змешчаны шэраг канструктыўных момантаў.Гэтыя моманты звязаныя з пераразмеркаваннем уладных паўнамоцтваў такім чынам, каб рэальнае кіраўніцтва арганізацыі не толькі змясцілася на Беларусь, але і набыло больш калегіяльны характар (Палітсавет, Пашыраная Управа, павышэнне ролі Сойму). Былі зроблены саступкі і па персаналіях: найбольш непажаданы для «апазіцыі» намеснік З.Пазьняка С.Папкоў заявіў аб небалатаванні на новы тэрмін. Можна знайсці элементы кампрамісу і ў прапановах групы Хадыкі-Вячоркі, але наўрад ці да кампрамісу можна аднесці іх прапановы па выключэнню са складу новага Сойму Ю.Беленькага, С.Папкова, А.Крыварота, звядзенне ролі З.Пазьняка да ролі сябра Сойму БНФ. Як неназваць кампраміснымі і прапановы па складу Сойму, вынесеныя З.Пазьняком, бо ўявіць сабе паспяховую дзейнасць арганізацыі без В.Вячоркі, В.Івашкевіча і А.Бяляцкага даволі цяжка.

Тым не меней, я думаю, што кампраміс у інтарэсах усёй арганізацыі яшчэ можа быць знойдзены, калі толькі гэта ўваходзіць у планы канфліктуючых бакоў. Калі ў кастрычніку дэлегатам З'езда будзе прапанавана для зацвярджэння ўзгодненая і кансалідаваная пазіцыя кіраўніцтва, дык нам удасца пазбегнуць расколу арганізацыі. Калі ж не, дык пры ўсіх прыгожых аргументах на карысць «ачысткі» ды вясёлкавых перспектыў, прыдзецца канстатаваць чарговы поспех антыбеларускіх сілаў на шляху па знішчэнню беларускага нацыянальна-вызвольнага руху.

**Уладзімір Старчанка**

# Лукашэнка абапіраецца на апазіцыянераў «в штатском»

**Падчас рабочай паездкі па Брэсцкай вобласці 5 жніўня Аляксандр Лукашэнка, адказваючы на пытанні журналістаў афіцыйных СМІ, выказаў сваё стаўленне да ўнутрыпалітычнай сітуацыі ў краіне і, у прыватнасці, дзейнасці апазіцыі.**

«Я даручаў Камітэту дзяржбяспекі яшчэ раней, напярэдадні вось гэтых усіх варушэнняў апазіцыйных, так званай гэтай апазіцыі, адсачыць сітуацыю і далажыць аб'ектыўна, што адбываецца ў рэспубліцы», — паведаміў А.Лукашэнка. Паводле ягоных словаў, улады «вельмі дастойна і спакойна паставіліся да ўсіх бурных дэбатаў» па пытанні аб заканчэнні ягоных прэзідэнцкіх паўнамоцтваў 20 ліпеня. «Мы хацелі паглядзець, як будуць паводзіць сябе гэтыя ўсе апазіцыянеры. І мы ў бойку з імі не ўвязваліся. Яны нічога не вартыя сёння, каб з імі змагацца», — заявіў А.Лукашэнка.

Пры гэтым ён закрануў сітуацыю, што склалася ў Беларускім Народным Фронце. «Мы ўсё-такі, напэўна, апублікуем стэнаграму бэнээфаўскага з'езду, — сказаў ён. — Яны сябе дэмакратамі лічаць, няхай бы народ пачытаў, пра што ішла гаворка на гэтым з'ездзе... Там разбуральнікі сабраліся і амаль легальна сцябалі рэспубліку і гатовыя яе тут уверх дном перавярнуць».

А.Лукашэнка таксама падкрэсліў, што стала атрымлівае інфармацыю ад спецслужбаў пра падзеі, што адбываюцца ў апазіцыйных колах.

**Наталля Кулагіна**

# «Разговоры, разговоры...»

**10 жніўня кіраўнікі сямі вядучых апазіцыйных палітычных партый падпісалі «Мемарандум аб перамоўным працэсе», які прадугледжвае перадачу Вярхоўнаму Савету Беларусі 13-га склікання паўнамоцтваў на вядзенне перамоў па выхаду з «глыбокага канстытуцыйнага, палітычнага і эканамічнага крызісу».**

Як паведаміў прадстаўнік адной з апазіцыйных партый, аўтары мемарандуму заявілі пра «гатоўнасць усялякага садзейнічання працэсу падрыхтоўкі і правядзення канструктыўных, рэальных, узаемаадказных перамоў» і пра «перадачу Вярхоўнаму Савету Рэспублікі Беларусь паўнамоцтваў на зацвярджэнне складу дэлегацыі і мандату на вядзенне перамоваў». У дакуменце адзначаецца, што Вярхоўны Савет «прызнаецца міжнароднымі структурамі, уключаючы АБСЕ, адзіным законным парламентам Рэспублікі Беларусь», паколькі ён «быў абраны ў выніку дэмакратычных выбараў і волевыяўлення беларускага народа» і мае паўнамоцтвы да лютага 2001 года. Мемарандум падпісалі старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі С.Багданкевіч, в.а. старшыні Беларускага Народнага Фронта «Адраджэнне» і партыі БНФ Л.Баршчэўскі, старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) М.Статкевіч, старшыня Цэнтральнага савета Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады С.Шушкевіч, першы сакратар Цэнтральнага камітэта Партыі камуністаў Беларускай С.Калякін, старшыня Беларускай партыі жанчын «Надзея» В.Палевікова, прадстаўнік кіраўніцтва Беларускай партыі працы Л.Лемяшонак.

Падпісваючы дакумент, лідар БСДП (НГ) М.Статкевіч зрабіў агаворку: «Паўнамоцтвы і пазіцыю прадстаўнікоў палітычных партый зацвярджаюць статутныя органы гэтых партый». Паводле звестак, пасля падпісання мемарандуму лідары палітычных партыяў накіраваліся ў офіс кансультацыйна-назіральнай групы АБСЕ для правядзення перамоваў.

**Ул. інф.**

# А кіраваць будзе Сазонаў

**Аляксандр Лукашэнка падпісаў днямі распараджэнне аб стварэнні каардынацыйнай групы, якая зоймецца працай па арганізацыі і правядзенні дыялогу ў грамадстве. Пра гэта ў інтэрв'ю газеце «Советская Белоруссия» паведаміў кіраўнік адміністрацыі прэзідэнта Міхаіл Мясніковіч.**

Паводле ягоных словаў, узначаліў гэтую групу памочнік кіраўніка дзяржавы Міхаіл Сазонаў; у яе склад увайшлі таксама юрысты, вучоныя, прадстаўнікі заканадаўчай улады. «Прэзідэнт выказаў упэўненасць, — сказаў М.Мясніковіч, —што стварэнне каардынацыйнай групы стане актуальным і прыкметным крокам у правядзенні грамадскага дыялогу, дапаможа партыям і грамадскім рухам краіны знайсці ўніверсальную платформу для гарманізацыі палітычнага жыцця, створыць умовы для правядзення сапраўды дэмакратычных выбараў у органы заканадаўчай улады». На думку М.Мясніковіча, да вырашэння актуальных праблем грамадства «павінна падключыцца апазіцыйная меншасць».

«Даводзіцца шкадаваць, — сказаў ён, — што сярод беларускіх апазіцыйных палітыкаў ёсць людзі, якія цягнуць нас назад, прапаноўваючы абвастрэнне сітуацыі, навязваючы канфрантацыйныя стэрэатыпы... Нармальнаму чалавеку складана зразумець, чаго яны хочуць. Учарашняга дня? Бязглузда! Мы павінны глядзець у будучыню. У палітычным кантэксце гэта, перш за ўсё, парламенцкія выбары 2000 года».

Адказваючы на пытанне аб палітычным крызісе ў Расіі і ў сувязі з гэтым — аб ходзе падрыхтоўкі саюзнага беларуска-расейскага дагавора, М.Мясніковіч заявіў: «Наша палітычнае кіраўніцтва паважае любы выбар расіян... Спадзяемся, што і зараз расіяне знойдуць сілы і мудрасць, каб супрацьстаяць пэўным дэструктыўным сілам і не дапусціць ніякай дэстабілізацыі. Што да саюзнага дагавора, мы надаем вялікае значэнне гэтаму дакументу».

Вызначаны апошнім часам знешнепалітычны курс беларускага кіраўніцтва на збліжэнне з Захадам М.Мясніковіч пракаментаваў наступным чынам: «Прэзідэнт прыняў рашэнне некалькі сбалансаваць курс нашага дзяржаўнага карабля. Але глыбока памыляюцца тыя, хто лічыць, што на збліжэнне з Захадам мы ідзем у сувязі з нейкім «ціскам» на нас або наогул ад нейкай «бязвыхаднасці».

**Наталля Кулагіна**

# БНФ: без руля і без вятрылаў...

**Беларуская апазіцыя паварочвае аглоблі. Прычым, без усялякага панукання з боку кіруючага рэжыму. Пры адсутнасці ўсялякай знешняй пагрозы ды бачных правакацыяў спецслужбаў. На апошнім з'ездзе БНФ склад дэлегатаў падзяліўся пароўну. 156 дэлегатаў галасавалі за абранне старшынёй БНФ З.Пазьняка, 152 - В.Вячоркі. З'езд не прыняў рашэння. Яно было адкладзена на два месяцы.**

Калі б хто задумаў напярэдадні падпісання хаўрусу паміж Расіяй і кіраўніцтвам Беларусі нанесці горшую шкоду незалежніцкім сілам нашай краіны, то не здолеў бы прыдумаць лепш. Ворагі Беларусі рыхтуюць адзін аншлюс за другім, адзін варыянт «саюзнай дамовы» за другім - Нацыянальны Фронт перайшоў у стан дэзарганізаванай, некіруемай, дэзарыентаванай масы адасобленых індывідуумаў без ветразяў і капітана. Наступнага плавання больш не будзе, шаноўнае спадарства. Судна абрасло ракушачнікам, а наперадзе - рыфы. На ўзбярэжжы - папуасы-людажэрцы.

У дэмакратычнай прэсе развал БНФ падаецца неверагодна легкадумна. Нейкія старыя кансерватары не саступаюць дарогі маладым ды спраўным «новым беларускім патрыётам». Вось пазбавімся Пазьняка - а тады ўжо ўсё ў нас атрымаецца. Гэта да якой наіўнасці, да якога глупства трэба дайсці, каб далейшае развіццё дэмакратыі, незалежнасці, рынку звязваць з адхіленнем Пазьняка ад уплыву на палітычнае жыццё БНФ у прыватнасці і Беларусі ў цэлым?

Зрэшты, Зянон Пазьняк сам іншы раз стварае праблемы непрадуманымі заявамі ды авантурнымі ініцыятывамі. Зноў жа, намаганнямі афіцыйнай прапаганды Пазьняка падаюць як праблему ў грамадскім жыцці Беларусі: ён нібыта і фашыст, і шпіён, і здраднік. Словам, выпіў усю ваду ва ўсіх кранах. Добра. Не стала Г.Карпенкі, Юрыя Захаранкі. Сядзіць М.Чыгір. На нары рыхтуюць М.Статкевіча. Адыдзе ўбок З.Пазьняк. Цікава, а з кім будзе весці перамовы рэжым пад эгідай АБСЕ? З Шарэцкім, Ганчаром, Гайдукевічам, беларускай «грушай», прабачце, «яблыкам»?

Можа, рэжым даў нейкія гарантыі пры ўмове адхілення Пазьняка? Можа, цывілізаваны Захад паабяцаў пад тое самае грошы? Ці Расія гарантавала, што адкліча ўсіх сваіх вывядоўцаў, агентаў уплыву, славянскіх эсэсаўцаў і баркашоўскіх РНЕўцаў разам з рэмамі вяхіравымі і барысамі беразоўскімі?..

Зянона Пазьняка ні ў якім разе нельга пакінуць у ягоным «далёкім», тым болей, сам-насам з цынічным рэжымам і ягонымі мафіёзна-імперыялістычнымі памагатымі. Зянону Пазьняку трэба пераступіць праз свае амбіцыі. Дзеля самога сябе. Дзеля БНФ. Дзеля Беларусі. Аднак, тое самае трэба зрабіць і ягоным апанентам.

Калі крокі адзін насустрач аднаму не прадугледжаны ні стратэгіяй ні тактыкай, то не варта чакаць двух месяцаў. Хопіць смешыць народ бессэнсоўнымі лаянкамі ды раздраем. Для цывілізаванага разводу дастаткова перагавораў лідараў сам на сам. Ці «маладым рэфарматарам», якія пасівелі ўжо ад палітыкі, хочацца, як некалі бальшавікам, адыходзячы, на развітанне, моцна бразнуць дзвярыма?

**Сяргей Самасей**

ГРАМАДСТВА

## Быдла

**Набліжалася 16 траўня 1999 года, і мы, апазіцыянеры, з вялікім энтузіязмам рыхтаваліся да надыходзячых выбараў новага прэзідэнта Беларусі.**

Справа звыклая: уверх-уніз па паверхах, апытанне насельніцтва, складанне спісаў. Хаця рызыка, безумоўна, ёсць. Пры сённяшнім рэжыме можна быць арыштаваным уладамі ў любы момант па даносу пенсіянера-камуніста ці гэбэшніка-даносчыка. Аднак, трэба адзначыць, што людзі за ўсе гады нашай няўдзячнай працы адносяцца да нас у асноўным добразычліва, многія самі выяўляюць жаданне дапамагаць чым-небудзь ці запісваюцца ў нашыя шэрагі. Прычым адбываецца гэта незалежна ад нацыянальнасці чалавека - беларус, паляк, рускі ці яшчэ хто!

... Пасля чарговага званка ў дзверы адной з кватэраў па вуліцы Таўлая ў Гродне нам адчыніў мужчына. Я імгненна ацаніў яго: высокі рост, шырокія плечы, амаль квадратны твар, тупы позірк і тоўстая шыя -мабыць вайсковец.

- Слухаю Вас, - прагучаў яго бас.

- Прабачце, калі ласка, - сказаў я, - мы прадстаўнікі апазіцыі, збіраем подпісы для вылучэння спадара Зянона Пазьняка кандыдатам у прэзыдэнты Рэспублікі Беларусь.

Я армянін. У мяне чорныя валасы, густыя чорныя бровы. Словам, звычайны армянскі твар. І раптам з маіх вуснаў «каўказца» беларуская гаворка. Аднак квадратны твар і тупы позірк мужчыны спакойна прабасілі:

- Я ненавіжу БНФ і Вашага Пазьняка.

- Прабачце, калі ласка, - сказаў я і адышоў ад дзвярэй.

- Не, пачакайце, давайце пагаворым.

- Пра што? - спытаў мой напарнік.

- Пра Ваш БНФ! Вы нас баіцеся, таму не жадаеце размаўляць з намі.

Невядома было толькі, каго ён меў на ўвазе, калі гаварыў «мы» ці «нас».

- Мы нікога не баімся, - сказаў я. - У нас няма часу, трэба абысці яшчэ шмат кватэраў.

- Не, давайце ўсё ж пагутарым, - настойваў на сваім мужчына, -заходзьце ў кватэру.

Я ведаў, што даказваць такім чынам што-небудзь практычна немагчыма, аднак мне было цікава даведацца пра ход яговых думак і яго пазіцыю. Мы ўвайшлі ў прыхожую. Мужчына ўключыў святло. Звыклае абсталяванне: шпалеры, на падлозе - дыван, на сцяне насупраць - люстра, над люстрам тэлефонны апарат і яшчэ нейкая невялікая рэпрадукцыя.

- Вось я па нацыянальнасці беларус, - паказаў на пятую графу ў сваім пашпарце, - аднак беларускую мужыцкую мову не люблю.

- Вы, мабыць, вайсковец? - спытаў я па-руску.

- Так, быў!

- Тое, што не валодаеце мовай сваіх продкаў, можа і не Ваша віна. Гэтак нас усіх выхоўвала наша былая дзяржава. Але скажыце, ці прызнаеце Вы дзяржаўнасць і Канстытуцыю Беларусі?

- У мяне адна Радзіма - СССР, - адказала квадратная галава.

- А шматвекавую гісторыю, культуру, - паспрабаваў задаць я чарговае пытанне...

- Не трэба ўсё гэта. Гэта Вашыя штучкі.

Я яго не зразумеў: што ён меў на ўвазе.

Але скажам так: Вашы бліжэйшыя суседзі - рускія, латышы, літоўцы, украінцы, палякі - чаму яны маюць нацыянальную годнасць, гісторыю, культуру, мову? Бо яны захоўваюць і памнажаюць усё гэта!

- Палякі не лічацца, - раптам нечакана вымавіў ён. - Яны на нас гавораць «быдла».

- На каго, на Вас?! - здзівіўся я.

- На беларусаў!

- Бачыце, не ўсе беларусы такія, як Вы, і так, як Вы не думаюць, на шчасце, - падкрэслена ветліва сказаў я.- Вам не здаецца, што чалавек, які не прызнае свае родныя карані, дзяржаву, мову, культуру і гісторыю і ёсць «быдла»?

З суседняга пакоя выйшла жанчына і прывіталася з намі, магчыма, гаспадыня кватэры, якая ўвесь час слухала нашу размову. Мне стала не па сабе.

- Што ж, пойдзем, - звярнуўся я да свайго напарніка, - па-мойму, тут усё зразумела. - Прабачце, да пабачэння, - звярнуўся я да жанчыны.

Мы выйшлі. За намі дзверы зачыніліся... Напарнік націснуў кнопку суседняй кватэры, і нам адчыніла прыгожая гаспадыня.

- Мы прадстаўнікі апазіцыі, - пачаў было я.

Жанчына шырока ўсміхнулася і добразычліва сказала:

- Ведаю-ведаю, заходзьце, калі ласка. Мы з вялікім задавальненнем распішамся за спадара Пазьняка.

Мы хутка справіліся са звыклай працэдурай, запісалі неабходныя дадзеныя і выйшлі.

На лесвічнай пляцоўцы стаяла гаспадыня папярэдняй кватэры з пашпартам у руцэ.

- Хлопцы, пачакайце. Вось мой пашпарт, запішыце мяне - я распішуся.

Я хутка запісаў неабходныя дадзеныя і міжвольна паглядзеў на графу «нацыянальнасць» у пашпарце. Там было напісана: «Руская».

- Прабачце нас, калі ласка, за спрэчку з Вашым мужам, мы не ведалі, што Вы ў хаце...

- Нічога страшнага. Вас цікавіць, чаму я запісваюся. Дык вось, я выхоўваю дваіх сыноў. Яны па нацыянальнасці беларусы. Прынамсі, я спадзяюся, што яны абавязкова вывучаць сваю родную мову і вырастуць сапраўднымі грамадзянамі нашай Беларусі.

Калі мой «быдла», як ён сам прызнаўся, не хоча паважаць свае векавыя карані, то за яго гэта зраблю я. Бо я жыву на гэтай зямлі...

**Рыгор Фарманян**

## Горад дзвюх рэвалюцыяў больш не жадае страсаць Расію

***Журналісцкі лёс нядаўна закінуў мяне ў Санкт-Пецярбург.***

Другая сталіца Расіі - буйны мегаполіс, прычым месціцца на дзесятках малых і вялікіх выспах. Гэта ствярае цяжкасці з перамяшчэннем насельніцтва горада і шматлікіх турыстаў. Тым не менш, транспартнай праблемы ў горадзе няма. Калі гарадское метро працуе прыкладна аднолькава - што ў Піцеры, што ў Менску ці Маскве, то праца наземнага транспарту істотна адрозніваецца ад нашага. «Даўкі» ў ім ніколі няма, практычна не існуе безбілетных пасажыраў, «зайцоў». У кожным аўтобусе, тралейбусе, трамваі білеты прадае кандуктар.

Затое ездзяць піцерскія шафёры на мяжы фола. Шырокія вуліцы часцяком не маюць разметкі, і кожны круціць, як яму выгадна. Пешаходы пераходзяць вуліцу, не зважаючы на сігналы светлафора і пераходы. Правілы дарожнага руху маюць умоўны характар, а ДАІшнікі практычна не звяртаюць увагі на парушальнікаў.

«Харчовай» праблемы ў Піцеры няма. Ледзь не ў кожным доме, як у старым горадзе, так і ў новых мікрараёнах, знаходзіцца альбо магазін, альбо кавярня, піўны бар, аптэка, пункт хуткага харчавання і г.д. На тратуарах гандлююць лёдамі, півам, гароднінай, тытунём. Там, дзе дазваляе месца, стаіць шопік (ларок), у якім можна купіць прадуктовыя тавары крыху танней, чым у магазінах.

Пра дэфіцыт прадуктаў усе даўно забыліся. Беларускія «нормы водпуску ў адны рукі» выклікаюць у піцерцаў, ды і не толькі ў іх, здзіўленне і паблажлівае спачуванне - бедныя, няўмелыя беларусы, затое людзі прыемныя, пускаюць да сябе без пашпартаў і без усялякіх візаў. Забарона на вываз больш як кілаграма каўбасы іх бянтэжыць, хаця непасрэднай пагрозы не нясе: Расію корміць зусім не беларускі спекулянт, як гэта падаецца афіцыйнай беларускай прапагандай.

У горадзе працуюць два канкуруючых піўзаводы. Адзін з іх, вядомы па TV-рэкламе піўзавод «Балтика», прапануе на продаж больш за дзесяць гатункаў піва: «Б-1», «Б-2», «Б-4» і г.д. Акрамя піва вытворчасці асноўнага канкурэнта, піўзавода «Сцяпан Разін», на прылаўках можна знайсці прадукцыю іншых расейскіх заводаў і нават бутэлькі, закарканыя ў Лідзе ці Слуцку. Піва «Балтика» не мае медалёў на цэтліку, але яговы густ робіць піцерскае піва безумоўным фаварытам сярод алкагольных напояў.

У Піцеры надзвычай смачны хлеб: белы і лёгкі. Больш за дзесяць гатункаў лёдаў - большасць айчынный, г.зн. рускай, вытворчасці. Невераготная колькасць пітной і мінеральнай вады - піцерцы не п'юць ваду з-пад крана - яна выключна смярдзючая і цёплая. Плюс продаж сапраўднага квасу з бочкаў...

Яшчэ адна замалёўка піцерскага жыцця: пасля перамогі футбольнага клуба «Зеніт» па Неўскім праспекце з гучнымі гукавымі сігналамі едуць заўзятары каманды. З люкаў і вокнаў аўтамабіляў лунаюць сцягі «Зеніта». Заўзятары без аўто арганізаванымі групамі ды асобнымі купкамі шпацыруюць па вуліцах з воклічамі ў падтрымку сваіх улюбёнцаў. Усё гэта ўспрымаецца цалкам нармальна.

Мне давялося пазнаёміцца з працай Санкт-Пецярбургскіх сродкаў масавай інфармацыі, паразмаўляць з супрацоўнікамі журналісцкага факультэта універсітэта, карэспандэнтамі радыё, тэлебачання і газетаў. Агульнае адчуванне - усё прададзенае ўладзе, алігархам, хабарнікам. Вядомы праваабаронца Юрый Удовін на маё пытанне, ці існуюць у Расіі ўвогуле СМІ, якія прэтэндуюць на аб'ектыўнасць у самым мінімальным памеры, здолеў назваць тры выданні. Калі Вам цікава, то гэта «Известия», «Общая» і «Новая» газеты. Але існуюць пэўныя правілы. Шэф інфармацыйнай рэдакцыі гарадскога тэлебачання доўга не мог зразумець маё пытанне наконт таго, як яны абавязаны асвятляць дзейнасць апазіцыйных палітыкаў. Калі зразумеў, то адказаў коратка: «Уся «чарнуха» - за грошы».

Наконт «чарнухі» ды «алілуйшчыны» ў Піцеры склалася своеасаблівая думка. Справа ў тым, што былы мэр А.Сабчак у перыяд перадвыбарчай кампаніі любіў пакрасавацца на тэлеэкране: прамаўляў спічы, уручаў ключы ад кватэры, дапамагаў хворым. Але піцерцы аддалі свае галасы апазіцыйнаму кандыдату А.Якаўлеву. Апошні, заняўшы пасаду губернатара, працягнуў справу папярэдніка...

Што тычыцца астатняй «палітыкі», то піцерская публіка падтрымлівае «інтэграцыю» Расіі ды Беларусі, пры гэтым вельмі скептычна ацэньваючы нашага прэзідэнта. Як сказала адна журналістка, яна мае бабульку ў Слоніме - таму трэба аб'ядноўвацца. На мае словы, што яе бабулька - не вельмі дзейсны аргумент супраць згубы суверэнітэту і самастойнасці беларусаў, журналістка вырашыла лічыць мяне нацыяналістам. Праўда, нашая спрэчка ніяк не адбілася на стасунках паміж намі - паводле дэмакратычнай традыцыі, кожны мае права мець сваё меркаванне.

На мурах дамоў пішуць, але не шмат. Поруч з традыцыйнымі надпісамі пра каханне і рок можна ўбачыць пагрозы NATO і Злучаным Штатам, лаянку на адрас дэмакратаў альбо «фашызму - не!».

У цэлым піцерцы - прыязны, ветлівы народ. Дарогу заўсёды тлумачаць столькі, колькі табе трэба. У транспарце часта просяць адно ў другога прабачэння, а не істэрычна лаюцца, як зрабілі б якія-небудзь масквічы ці, напрыклад, гарадзенцы.

Светапогляд гэтых расіянаў вельмі песімістычны аж да безвыходнасці. Прэзідэнта мы выберам, лічаць яны, таго ж Ельцына, толькі прозвішча будзе іншым. Крэдыты нам дадуць, але іх усё роўна раскрадуць. Прэсы сумленнай ніколі не будзе. Пры гэтым яны пасміхаюцца, але зусім не горка ці абуральна, а нават з нейкім выклікам. Такі гэта народ - з горада дзвюх рэвалюцыяў.

**Сяргей Самасей**



## «Мне ніколі не будзе сорамна...»

**На вышэйшым дзяржаўным узроўні ўжо даўно вядзецца падрыхтоўчая работа па аб'яднанню Беларусі ды Расіі ў адзіную дзяржаву. Здавалася б, я павінна адной з першых вітаць гэтую ініцыятыву і гучней за ўсіх пляскаць у далоні, бо Расія - радзіма маіх продкаў па бацькоўскай лініі, і ўсё расейскае я бязмежна люблю з самага дзяцінства.**

Але чаму так трывожна на душы? Чаму розум і сэрца адмаўляюцца станоўча ўспрымаць ідэю саюзнай дзяржавы?

Мо таму, што гэтак жа, як Расію, я горача люблю і Беларусь: цікаўлюся яе тысячагадовай гісторыяй, дзе кожная старонка - пакутніцкая або велічная - надае гонар беларускай нацыі, дазваляе ўсведамляць моц, працавітасць, годнасць, мужнасць, таленавітасць беларускага народа. Нездарма ж і Беларусь урэшце рэшт дамаглася запаветнай мэты - стала суверэннай незалежнай дзяржавай.

З нагоды гэтай ашаламляльна-радаснай падзеі многія ў тыя дні з палёгкай уздыхнулі і сказалі самі сабе: «Усё! Браткі! Нарэшце надышоў час нам, беларусам, станавіцца гаспадарамі ў сваёй краіне, ладзіць самастойнае жыццё, будаваць заможную, дэмакратычна-прававую дзяржаву». Ды марнымі былі спадзяванні на самастойнае развіццё, бо, высвятляецца, нам нельга пражыць без Расіі. Эстонія, напрыклад, жыве, а мы, небаракі, не можам. Больш таго. Высвятляецца, што Беларусі проста наканавана нябеснымі сіламі быць у саюзе з велізарнай суседняй дзяржавай і разам з ёю караскацца з багны крызісу.

Колькі ўхваляючых на карысць саюзу з Расіяй апошнім часам прагучала прамоваў па тэлебачанні і радыё! У афіцыйным друку амаль у кожнай публікацыі падкрэсліваецца, як добра суразмоўцы ставяцца да дамоўленасці аб утварэнні саюзнай дзяржавы. Мне цяжка зразумець гэтых паважаных людзей. Бо я лічу, што найвялікшымі каштоўнасцямі на свеце з'яўляюцца родная мова, свабода і незалежнасць сваёй краіны. Гэтыя святыя ісціны зыходзяць ад Бога, і Бог уладарыць імі. Таму не варта іх аспрэчваць ды ісці насуперак. Для таго мы і здабылі, з Божага бласлаўлення, суверэнітэт праз столькі стагоддзяў, каб беларуская нацыя, стаўшы квітнеючай краінай, пакінула свой непаўторны, адметны след у Сусвеце, а не знікла ў розных саюзах ды паяднаных дзяржавах, згубіўшы аснову народа -сваю мову.

Вось такое маё меркаванне. Я чамусьці ўпэўнена, што мне ніколі не будзе сорамна за маю грамадзянскую пазіцыю, якую я абрала па лёсавызначальнаму для беларускага народу пытанню.

**Клаўдзія Шчарбакова, г.Слонім**

## Ізноў мёртвыя душы!!!

**Я, Пятроўская Вераніка Збігнеўна, паэтка, сябра Саюза Беларускіх Пісьменнікаў, хачу паведаміць аб адміністратыўным беззаконні ў горадзе Ліда.**

Ужо другі год Лідскі гарвыканкам цягне брудную справу па выкідванню мяне з маім дзіцём з кватэры, дзе я маю бестэрміновую прапіску; знаходзіць выканаўцаў і ў домакіраўніцтве, і ў пашпартным стале і г.д.

Гарвыканкам правакуе суседзяў, каб яны пісалі на мяне скаргі, збіралі подпісы.

У чэрвені 1998 года я прыйшла ў домакіраўніцтва N 2 за даведкай аб складзе сям'і. Пашпартыстка С.Б.Скварцова адмовіла выдаць мне даведку, бо, маўляў, у яе могуць быць непрыемнасці ў гарвыканкаме.

Зараз адміністрацыя зрабіла фальсіфікацыю маіх дакументаў: з члена сям'і я ператварылася ў субкватаранта.

Мне, законнай і адзінай гаспадыні кватэры, якая ўсе гэтыя гады яе аплочвала, ЖЭС N2 13 жніўня 1999 года выдае даведку, што я ў гэтай кватэры ўсяго толькі субкватарант. А кватэранаймальнік у маёй кватэры - С.Н.Савін, мёртвая душа; чалавек, які памёр 16 гадоў таму!!!

# Кошты на кватэры сталі яшчэ ніжэйшымі

**Агульная Усходне-Еўрапейская тэндэнцыя зніжэння коштаў на кватэры вось ужо больш за два гады квітнее ў Рэспубліцы Беларусь. Аднак поруч з тэндэнцыяй, у нашай дзяржаве своеасаблівы жыллёвы рынак і спецыфічныя прычыны падзення «грашовых каціровак» кватэраў.**

З моманту росквіту рынка нерухомай маёмасці ў Беларусі - пачатак 1996 года, да сённяшніх дзён, кошты на кватэры знізіліся ў сярэднім на 27 працэнтаў. На аднапакаёвыя - 22,5 працэнта, на двухпакаёвыя -21,8 працэнта, на трохпакаёвыя - 30,1 працэнта, на чатырохпакаёвыя -29,9 працэнта і г.д. Зніжэнне коштаў адбылося не толькі ў сталіцы і ў абласных цэнтрах рэспублікі, але і ў цэлым па краіне. На наш погляд, прычыны гэтаму наступныя:

**1)** нізкая спажывецкая здольнасць насельніцтва;

**2)** павелічэнне будаўніцтва жылля, асабліва ў 1998 годзе;

**3)** магчымасць набыцця новай кватэры з паэтапнымі выплатамі (уведзена ў большасці будаўнічых арганізацый з 1996 года);

**4)** як вынік: памяншэнне попыту над прапановай;

**5)** зніжэнне коштаў на кватэры ў Расейскай Федэрацыі, Літве, Латвіі і Украіне ды іншыя прычыны.

Да вышэйназваных прычынаў сёння можна яшчэ далучыць зніжэнне дзелавой актыўнасці на рынку нерухомай маёмасці. Пачатак жніўня нікволі не адрозніваўся вялікімі коштамі на кватэры, чым, напрыклад, у траўні ці кастрычніку. Аднак гэтая прычына не з'яўляецца найбольш важнай, і мы нават не вылучаем яе асобным пунктам.

Цяпер у рэспубліцы самыя дарагія кватэры па-ранейшаму ў сталіцы. Далей у роўнай ступені «лідыруюць» Брэст і Гродна (больш падрабязна - **у табліцы N1**). Асаблівасцямі рынка нерухомай маёмасці (кватэраў) у рэспубліцы з'яўляюцца:

**1)** «вельмі нізкія» кошты на кватэры ў горадзе Менску;

**2)** сапраўды нізкія кошты на кватэры ў раённых цэнтрах рэспублікі;

**3)** перавышэнне коштаў на 2-3-пакаёвыя кватэры ў Лідзе (р-н «Патсдам») над аналагічным жыллём у Гомелі, Віцебску ці Магілёве;

**4)** залежнасць кошту кватэры ад экалагічнай абстаноўкі ў рэспубліцы: нізкія кошты жылля ў некаторых раёнах Гомельскай, Магілёўскай і Брэсцкай абласцях, а таксама ў абласным цэнтры - горадзе Гомелі.

Як і ў цэлым па рэспубліцы, у Гродне таксама значна знізіліся кошты на кватэры. Пры гэтым паказчык зніжэння - 27 працэнтаў па рэспубліцы - цалкам адпавядае стану справаў у абласным цэнтры на Нёмане. Значна патаннелі трох- і чатырохпакаёвыя кватэры, чуць менш - двухпакаёвыя і толькі на 19,4 працэнта (у параўнанні з пачаткам 1996 года) -аднапакаёвыя.

Як і раней, кошт кватэры залежыць ад месцазнаходжання, агульнай плошчы (памеру), паверха, наяўнасці тэлефона, балкона, ад года пабудовы дома, ці праводзіўся рамонт і г. д., а таксама, зразумела, ад колькасці пакояў. У Гродне, як і год таму, падчас нашага апошняга агляду рынка нерухомай маёмасці ў ПАГОНІ, вельмі цяжка «ідзе» элітарнае жыллё. Значныя цяжкасці - з продажам трохпакаёвых кватэраў. Па-ранейшаму даволі шмат прапановай на продаж у раёне Вішнявец і Дзевятоўка, што значна зніжае і без таго нізкія кошты на кватэры ў гэтых раёнах (**гл. табліцу N2**).

Апошнім часам крыху ўзрос попыт на аднапакаёвыя кватэры, што адразу адбілася на іх кошце. У некаторых раёнах Гродна цана аднапакаёвай кватэры больш за цану двухпакаёвай у раёне новай Дзевятоўкі.

Як бачым з табліцы N2, найбольшая прапанова на продаж трохпакаёвых кватэраў. Па тыпу дома - панэльныя. Што да планіроўкі, дык кватэры новай планіроўкі пераважаюць у продажы над астатнімі кватэрамі.

Такім чынам, цэны на кватэры ў рэспубліцы знізіліся ў чарговы раз. На наш погляд, змяненні на рынку кватэраў магчымыя ў двух напрамках. Павышэнне коштаў кватэраў «за лік» паляпшэння ўзроўня жыцця грамадзянаў рэспублікі ды паніжэнне коштаў кватэраў у выніку рэзкага падаражання аплаты за камунальныя паслугі ці далейшага краху эканомікі краіны з памяншэннем сярэднемесячнага заробку ў цэлым па краіне.

Бліжэйшым часам ПАГОНЯ працягне агляд рынка нерухомай маёмасці. Мы плануем паўтарыць пра стан справаў на рынку дамоў (катэджаў) і гаражоў.

**Кацярына Зволін**

**Табліца N2.**

| Месцазнаходжанне | Колькасць пакояў | Планіроўка | Тып | Кошт дома |
|---|---|---|---|---|
| вул. Таўлая | 1 | новая | цагляны | 9500-10000 |
| вул. Гая | 1 | хрушч. | панэль. | 7500-8000 |
| вул. Дамброўскага | 1 | хрушч. | панэль. | 7000-8000 |
| вул. Дзяржынскага | 1 | новая | панэль. | 9000-9500 |
| вул. Кабяка | 1 | новая | панэль. | 8500-9000 |
| вул. Фамічова | 1 | брэжн. | панэль. | 9000-9500 |
| вул. Сав. Пагранічнікаў | 1 | хрушч. | панэль. | 7000-8000 |
| вул. Сацыялістычная | 1 | сталінск. | цагляны | 8000-8500 |
| вул. Урублеўскага | 1 | хрушч. | панэль. | 7000-8000 |
| м-н Фолюш | 1 | хрушч. | панэль. | 7000-8000 |
| вул. Шчорса | 1 | новая | цагляны | 9500-10000 |
| вул. Каліноўскага | 1 | брэжн. | панэль. | 10000-10500 |
| Індурская шаша | 1 | новая | панэль. | 8500-9000 |
| вул. Кляновая | 1 | новая | цагляны | 10000-10500 |
| вул. Ліможа | 2 | новая | цагляны | 10000-10500 |
| пр-т Касманаўтаў | 2 | хрушч. | панэль. | 9000-9500 |
| пр-т 40 гадоў Перамогі | 2 | новая | панэль. | 11000-11500 |
| вул. Кляновая | 2 | новая | цагляны | 12000-12500 |
| вул. Кабяка | 2 | новая | цагляны | 10500-11000 |
| вул. В.Соламавай | 2 | хрушч. | панэль. | 9000-9500 |
| вул. Урублеўскага | 2 | хрушч. | панэль. | 9000-9500 |
| пр-т Будаўнікоў | 2 | брэжн. | панэль. | 11000-11500 |
| вул. Гая | 2 | брэжн. | панэль. | 10500-11000 |
| м-н Фолюш | 2 | новая | панэль. | 12000-12500 |
| вул. Сацыялістычная | 2 | сталінск. | цагляны | 12500-13000 |
| вул. Гагарына | 2 | новая | панэль. | 12000-12500 |
| вул. Сав. Пагранічнікаў | 2 | хрушч. | панэль. | 9000-9500 |
| вул. Горкага | 2 | хрушч. | панэль. | 10000-10500 |
| вул. Захарава | 2 | хрушч. | панэль. | 10000-10500 |
| вул. Паповіча | 2 | новая | панэль. | 11500-12000 |
| вул. Дамброўскага | 2 | хрушч. | панэль. | 9000-9500 |
| турбаза «Нёман» | 2 | брэжн. | цагляны | 10000-10500 |
| вул. Церашковай | 2 | новая | цагляны | 11500-12000 |
| вул. Болдзіна | 3 | новая | панэль. | 16000-16700 |
| вул. Пушкіна | 3 | хрушч. | панэль. | 11000-11500 |
| вул. Урублеўскага | 3 | хрушч. | панэль. | 10800-11300 |
| пр-т 40 гадоў Перамогі | 3 | новая | панэль. | 15000-15500 |
| вул. Паўлоўскага | 3 | брэжн. | цагляны | 16500-17000 |
| вул. Сав.Пагранічнікаў | 3 | хрушч. | панэль. | 11000-11500 |
| вул. Леніна | 3 | брэжн. | цагляны | 17500-18500 |
| вул. Каліноўскага | 3 | брэжн. | панэль. | 16500-17300 |
| вул. Л.Чайкінай | 3 | хрушч. | панэль. | 11000-11500 |
| вул. Ліможа | 3 | новая | цагляны | 14500-15200 |
| вул. Паповіча | 3 | хрушч. | панэль. | 11200-11800 |
| пр-т Я.Купалы | 3 | брэжн. | панэль. | 15000-15500 |
| вул. Шчорса | 3 | новая | панэль. | 15500-16200 |
| пр-т Касманаўтаў | 3 | брэжн. | цагляны | 16000-16800 |
| вул. Дзяржынскага | 3 | новая | панэль. | 15000-15600 |
| вул. Ажэшкі | 3 | брэжн. | цагляны | 16500-17200 |
| вул. Кляновая | 3 | новая | цагляны | 15700-16300 |
| вул. Церашковай | 3 | брэжн. | панэль. | 15300-16900 |
| вул. Рэпіна | 3 | новая | панэль. | 14900-15400 |
| вул. Суворава | 4 | хрушч. | панэль. | 12000-12600 |
| вул. Горкага | 4 | брэжн. | панэль. | 17500-18500 |
| вул. Дзяржынскага | 4 | новая | панэль. | 16800-17500 |
| пр-т 40гадоў Перамогі | 4 | новая | панэль. | 16900-17700 |
| вул. Рэпіна | 4 | новая | панэль. | 17200-18000 |
| вул. Дамброўскага | 4 | новая | цагляны | 17500-18500 |
| м-н Фолюш | 4 | новая | панэль. | 17800-18700 |
| вул. Каліноўскага | 4 | брэжн. | панэль. | 17800-19000 |
| вул. Пестрака | 4 | брэжн. | панэль. | 16900-18000 |
| вул. Таўлая | 4 | новая | панэль. | 17000-17700 |
| вул. Кляновая | 4 | новая | цагляны | 17900-19000 |

*Заўвагі: 1. Кошты пададзеныя ва ўмоўных адзінках.*
*2. Інфармацыя пададзена на 2 жніўня 1999 года.*

**Табліца N1**

| Горад | 1-пакаёвыя | 2-пакаёвыя | 3-пакаёвыя | 4-пакаёвыя |
|---|---|---|---|---|
| Баранавічы | 7500-8000 | 10000-115000 | 13000-14500 | 15000-16000 |
| Барысаў | 6000-7500 | 9500-11000 | 12500-16000 | 16500-18000 |
| Бабруйск | 6500-8500 | 10000-12500 | 13500-16000 | 17000-19000 |
| Брэст | 9300-10300 | 11500-13000 | 14300-17000 | 18000-20500 |
| Віцебск | 8000-9500 | 10500-12500 | 14000-16500 | 17000-19500 |
| Ваўкавыск | 5000-5700 | 7500-8500 | 9500-11500 | 12500-14500 |
| Валожын | 5500-6500 | 7500-9000 | 10000-11500 | 12500-14500 |
| Гомель | 7500-9500 | 1000-12500 | 12800-15500 | 17000-19000 |
| Гродна | 8500-10000 | 10900-12700 | 14500-16500 | 17500-20500 |
| Крычаў | 5000-5500 | 6000-7500 | - | - |
| Менск | 14000-15000 | 19500-23000 | 22500-28000 | 35000-45000 |
| Магілёў | 8000-9500 | 11000-13500 | 14500-17000 | 17500-20000 |
| Мазыр | 4000-45000 | 5500-7000 | 7500-10000 | 11000-13000 |
| Маладэчна | 6500-7000 | 9000-10000 | 11000-12500 | 14000-18000 |
| Орша | 5000-5500 | 6800-8500 | 9500-11500 | - |
| Пінск | 5500-6000 | 7500-8500 | 9000-10800 | - |
| Ліда | 8000-9500 | 10000-13000 | 14000-16000 | 18000-20000 |
| Лунінец | 5000-6000 | 6500-8500 | - | - |
| Рэчыца | 4000-4800 | 5500-6500 | 7500-10500 | - |
| Скідаль | 4500-5000 | 6000-8000 | 8500-11500 | - |
| Слонім | 5500-6500 | 8000-9500 | 10000-13000 | 12500-16000 |

*Заўвагі: 1. Кошты пададзены ва ўмоўных адзінках.*
*2. Дадзеныя па кватэрах толькі новай планіроўкі.*
*3. «-» азначае адсутнасць інфармацыі паводле дадзеных катэгорыяў кватэраў.*

# Запор?

**З моманту аднаўлення рэгістрацыі суб'ектаў гаспадарання Мінскім гарвыканкамам — 12 ліпеня 1999 года — у рэгістрацыйны аддзел пададзена больш за тысячу заяў ад грамадзянаў, жадаючых стаць індывідуальнымі прадпрымальнікамі і плануючых займацца пераважна розвнічным гандлем, а таксама ад заснавальнікаў 12-ці зноў ствараемых юрыдычных асоб. Пры гэтым з ліку падаўшых заявы суб'ектаў ніводны не зарэгістраваны.**

**У Брэсцкай вобласці рэгістрацыя і перарэгістрацыя недзяржаўных суб'ектаў гаспадарання не аднавілася дасюль. У Віцебскай, Гомельскай, Гродзенскай і Магілёўскай абласцях аблвыканкамы, хоць і аднавілі прыём дакументаў на рэгістрацыю суб'ектаў гаспадарання, аднак не вынеслі ніводнага рашэння аб рэгістрацыі. Выключэннем стала толькі Мінская вобласць, дзе працэс рэгістрацыі аднавіўся 10 траўня і з гэтага моманту зарэгістравана ўжо 38 недзяржаўных прадпрыемстваў, 6 фермераў ды 744 індывідуальных прадпрымальнікі.**

**Сяргей Балыкін**




**Бітва за ўраджай па-беларуску**

# Курсы валют

**На 11 жніўня Нацыянальны банк Беларусі ўстанавіў наступныя афіцыйныя курсы валют:**

даляр ЗША — 272.000 беларускіх рублёў; еўра — 292.508,80; нямецкая марка — 149.557,37; расейскі рубель — 10.880. У параўнанні з учарашнім днём афіцыйны курс даляра ЗША не змяніўся.

На «чорным» рынку наяўнай валюты ў Менску раніцай 11 жніўня даляр куплялі па 440.000—445.000 і прадавалі па 450.000—455.000 рублёў. У параўнанні з учарашнім днём курс вырас у сярэднім на 5.000 рублёў.

***На мінулым тыдні (2—8 жніўня) курс даляра ЗША да беларускага рубля вырас на большасці сегментаў валютнага рынку краіны.***

***Лідарам росту стала кацыроўка даляра ЗША да безнаяўнага беларускага рубля на пазабіржавым рынку — 13 працэнтаў (з 490.000—510.000 да 555.000—575.000 рублёў). Адначасова, на «чорным» рынку наяўнай валюты ў Мінску кошт амерыканскай валюты знізіўся ў сярэднім на 1,1 працэнта (з 440.000—445.000 да 435.000—440.000 рублёў пры куплі, з 450.000—455.000 да 445.000—450.000 рублёў пры продажы).***

***На Беларускай валютна-фондавай біржы даляр ЗША падаражаў на 1,2 працэнта (з 268.000 да 271.000 рублёў), нямецкая марка і еўра — на 1,5 працэнта (адпаведна са 146.730 да 148.880 і з 286.950 да 291.110 рублёў), расейскі рубель патаннеў на 0,3 працэнта (з 11.080 да 11.050 рублёў).***

***У абменных пунктах камерцыйных банкаў курс даляра ЗША вырас на 1,6 працэнта (з 300.000—310.000 да 305.000—315.000 рублёў пры куплі, з 310.000 да 315.000 рублёў пры продажы).***

***Афіцыйны курс даляра да расейскага рубля, які ўстанаўліваецца Цэнтральным банкам Расіі, павялічыўся за мінулы тыдзень на 1,5 працэнта (з 24,19 да 24,55 рубля).***

**Дзмітрый Уласаў**

# Беларуская дзіва-статыстыка

**Паводле дадзеных Міністэрства статыстыкі ды аналізу Рэспублікі Беларусь, інфляцыя ў ліпені склала 6,4 працэнта. Такім чынам, з пачатку года яна павялічылася на 94,3 працэнта.**

На наш погляд, інфляцыйныя лічбы Мінстата за ліпень -гэта беларуская дзіва-статыстыка. Справа ў тым, што два тыдні таму Міністэрства статыстыкі ды аналізу абнародавала дадзеныя: у ліпені рэальны заробак грамадзянаў рэспублікі павялічыўся на 25,6 працэнта. Атрымліваецца, што пакупніцкая здольнасць чэрвеньскага заробку ў ліпені пераўзышла папярэдні месяц у чатыры разы!!! Такіх поспехаў, напэўна, не дамагалася эканоміка ні адной з краінаў. Беларусь ізноў першая! Праўда, на наш погляд, трэба задаць пытанне: «З якога боку?»

Такім чынам, адпаведна дадзеным Мінстата, інфляцыя ў ліпені склала 6,4 працэнта, а згодна з дадзенымі аналітычнага цэнтра «Рынкавая эканоміка» - 18,37 працэнта. Больш таго, спецыялісты Цэнтра лічаць, што цяпер беларуская эканоміка перажывае свае найцяжэйшыя дні. Пра гэта - аналітычныя разважанні ў адным з бліжэйшых нумароў ПАГОНІ.

Паводле дадзеных вышэйуказанага Цэнтра, у ліпені больш за ўсё падаражэлі:

- бензін - на 80,2 працэнта;
- дызельнае паліва - на 68,8 працэнта;
- мука - на 37,3 працэнта;
- макароны - на 23,2 працэнта;
- грэцкія крупы - на 20,7 працэнта;
- рыс - на 19,4 працэнта;
- праезд у транспарце - на 66,67 працэнта;
- бытавыя паслугі насельніцтву - на 23,3 працэнта і г.д.

Не змяніўся толькі кошт на цукар, каву і гарбату. Гэтыя прадукты ўвязаны курсам нацыянальнай грашовай адзінкі, які на працягу апошніх двух з паловай месяцаў не змяняецца. Праўда, у той жа час алей і шакаладныя вырабы, прывезеныя з-за мяжы, падаражэлі ў сярэднім на 15 працэнтаў, нягледзячы нават на стойкасць курсу беларускага рубля.

На погляд эканамістаў, у бліжэйшыя два месяцы ў Рэспубліцы Беларусь адбудзецца рэзкі абвал нацыянальнай грашовай адзінкі, вырасце інфляцыя да 25 працэнтаў у месяц, і сітуацыя з беларускай цуда-эканомікай выйдзе з-пад кантролю. Мы ж не ведаем, ці паўторыцца жнівень-98. Толькі здзіўляцца даводзіцца дадзеным Мінстата, якія не лезуць ні ў якія вароты з рэчаіснасцю. Беларускі дзяржаўны «апарат-вертыкаль» зарапартаваўся перад вышэйстаячым кіраўніком да самай высокай ступені абсурду. Тым не менш, усе прызвычаіліся: працуюць, адпачываюць і гладзяць самі сябе па галоўцы ды іншых таксама гладзяць.

**P.S.:**

***Адпаведна дадзеным дзяржаўнай сацыялагічнай службы (назавем яе «Люстэрка»), калі б выбары праводзіліся ў 1999 годзе, то беларускі цуд здзіўляў бы ўвесь свет як мінімум яшчэ пяць гадоў.***

**Максім Жмінда**

ГІСТОРЫЯ І КУЛЬТУРА

# Бітва над Ворсклай

## (да 600-годдзя трагічнай падзеі)

**Старонкі нашай гісторыі не толькі гераічныя. Часта яны абмытыя крывёю нашых продкаў, якія сталі ахвярамі палітычных памылак, а часам і авантурных планаў правадыроў альбо няўдалых вайсковых аперацыяў. Публікуючы матэрыял пра паразу беларуска-літоўскіх войскаў на рацэ Ворскла 600 год таму, спадзяюся на разуменне і добразычлівую рэакцыю чытачоў. Як казалі старажытныя, «Гісторыя - настаўніца жыцця». Яна вучыць на розных прыкладах, як станоўчых, так і адмоўных. Выйграе той, хто здольны вучыцца. Наш абавязак сёння ўшанаваць памяць ваяроў Вялікага княства Літоўскага, якія загінулі 600 гадоў таму на рацэ Вóрскла, баронячы свой край ад татарскай небяспекі. Сярод пабітых і палоных, без сумневу, былі і нашыя землякі - гарадзенцы.**

У 90-я гады XIV стагоддзя галоўнымі ворагамі Вялікага княства Літоўскага надалей заставаліся на захадзе крыжацкі Тэўтонскі Ордэн, а на поўдні - татарская Залатая Арда. Перамога Маскоўскага войска на чале з маскоўскім князем Дзмітрыем (якое актыўна падтрымалі беларуска-літоўскія атрады Альгердавічаў Андрэя Полацкага і Дзмітрыя Бранскага) на Куліковым полі 8 верасня 1380 года над войскам Волжскай Арды на чале з Мамаем не вырашыла праблемы татарскай небяспекі для рускіх земляў. Яна надала толькі важны маральны імпульс, у першую чаргу, для рускага народу. Аднак, палітычная ўлада ў Маскоўі надалей канцэнтравалася з ардынскай сталіцы Сарай. Уся Паўночна-Усходняя Русь працягвала прызнаваць над сабою вяршэнства татараў і плаціла штогод Залатой Ардзе вялікую даніну. Больш таго. Вялікі маскоўскі князь сваю пасаду атрымоўваў, дзякуючы ханскаму ярлыку, які рабіў яго татарскім намеснікам на Русі ды каардынатарам збору даніны з усіх рускіх княстваў. Ханскі ярлык з другой паловы XIV стагоддзя звычайна атрымлівалі маскоўскія князі, як найбольш магутныя на той час сярод іншых рускіх княстваў. Праўда, выбар у рэшце рэшт залежаў ад волі татарскага хана.

У гэты час у атачэнні Вітаўта ўзнік арыгінальны і цікавы план падпарадкавання сваёй уладзе Маскоўскага княства, з аднаго боку, і абароны паўднёвых земляў Вялікага княства Літоўскага ад татарскай пагрозы, - з другога. Вітаўт задумаў паспрабаваць атрымаць ханскі ярлык на Вялікае княства Маскоўскае. Праўда, ён не збіраўся патрапіць у становішча маскоўскіх князёў у дачыненнях з Залатой Ардой, а меркаваў падзяліць з ёй палітычныя ўплывы над Руссю, магчыма, выплочваючы хану пэўную частку даніны з рускіх земляў. А ў перспектыве меркаваў падпарадкаваць Залатую Арду ў пэўную палітычную залежнасць ад Вялікага княства Літоўскага. Маскоўскай дзяржаве на той час падобныя думкі нават не мроіліся.

Неўзабаве надарылася неблагая магчымасць рэалізаваць дадзены план. Хан Залатой Арды Тахтамыш, які вядомы ў гісторыі тым, што спаліў і разбурыў Маскву ў 1382 годзе, моцна пасварыўся ў 1394-95 гадах з легендарным Тамерланам (Цімурам). Прадаўжальнік справы Чынгіз-хана, Тамерлан знішчаў сваімі нападамі ўсю паўднёвую Азію ад Кітая да Міжземнага мора. Канфлікт з ім для Тахтамыша скончыўся поўнай катастрофай у 1396 годзе. Войска яго было разбіта, маёмасць парабавана, а сам ён выратаваўся з часткай сваёй радні і знайшоў прытулак у Вялікім княстве Літоўскім у Вітаўта. Новым ханам Залатой Арды Тамерлан прызначыў Цямір-Кутлуя.

Вялікае княства Літоўскае ў сярэдзіне 90-х гадоў XIV стагоддзя дасягнула найбольшых памераў тэрыторыі: ад нізоўяў Нёмана і Дзвіны на поўначы да нізоўяў Днястра і Дняпра на поўдні. Магутнасць дзяржавы надавала ўпэўненасці яе гаспадару Вітаўту і ўсяму насельніцтву. У ВКЛ вырашылі выкарыстаць унутраныя цяжкасці Залатой Арды, каб пашырыць свае ўплывы на поўдні ў Паўночным Прычарнамор'і. Тахтамыш быў ласкава прыняты Вітаўтам і часова дастаў на сваё ўтрыманне Ліду з ваколіцамі. Паміж ханамвыгнаннікам і вялікім князем паўстала ўмова, якую выказаў у сваіх словах Вітаўт, звяртаючыся да Тахтамыша: «Пойдзем палонім зямлю Татарскую, паб'ём цара Тымір-Кутлуя і пасадзім цара Тахтамыша, а ён нас пасадзіць на ўсёй рускай зямлі».

Ужо ў 1397 годзе Вітаўт арганізаваў першую вайсковую аперацыю супраць татараў. Ён дайшоў да горада Кафа ў Крыме і падпарадкаваў сабе тамтэйшых татараў, пасадзіўшы ім за хана Тахтамыша. У наступным 1398 годзе адбылася чарговая выправа войска Вялікага княства Літоўскага супраць Залатой Арды ў Прычарнамор'е. У выніку на берагах Дняпра паўстаў гліняны замак ВКЛ Ёганнесбург. Пераможныя паходы беларуска-літоўскага войска на татараў хутка разнеслі па свеце славу Вітаўта. Таму на запланаваны паход у 1399 годзе адгукнуліся шматлікія еўрапейскія рыцары, што надало акцыі міжнародны характар.

Паход князя Вітаўта супраць татараў быў арганізаваны як акцыя агульнаеўрапейская. Папа Рымскі Баніфацый IX падтрымаў ініцыятыву літоўскага гаспадара, абвясціўшы крыжовы паход супраць Залатой Арды.


Вялікі князь Вітаўт

У войску ВКЛ былі атрады з Польшчы, Тэўтонскага ордэна, Валахіі, некалькі тысячаў татар прывёў князь Тахтамыш. Аднак пераважную сілу войска Вітаўта, якое налічвала 15-20 тысяч чалавек, складалі беларускія, украінскія ды літоўскія харугвы на чале з прыкладна пяцідзесяцццю князямі ВКЛ.

Бітва на рацэ Ворскла, левым прытоку Дняпра, на Палтаўскай зямлі, адбылася 12 жніўня 1399 года. Значна большае па колькасці войска Залатой Арды на чале з ханам Тымір-Кутлуям і цемнікам Едзігеем сустрэла Вітаўта ў сваіх межах каля пераправы праз раку Ворскла. Спачатку татары зацягвалі час перамовамі, а калі падышлі асноўныя сілы, яны абкружылі войска ВКЛ. У беларускім летапісе чытаем: «Тым часам ласпеў з'явіцца цар Тымур-Кутлуй са шматлікімі палкамі ратнымі, з усімі сіламі сваімі ардынскімі, і сустрэліся яны з Вітаўтам на полі каля ракі Ворсклы, і адбыўся паміж імі бой вялікі дванаццатага жніўня, у аўторак. Доўга яны біліся - амаль увесь дзень. І дапамог Бог татарам, і пабілі яны вялікага князя Вітаўта і ўсё войска яго». У гэтай бітве загінулі альбо трапілі ў палон тысячы ваяроў. Сярод іх каля 20 беларуска-літоўскіх князёў з 50, якія ўдзельнічалі ў паходзе, былі забітыя. Гэта героі Кулікоўскай перамогі Андрэй Альгердавіч Полацкі, брат ягоны Дзімітрый Бранскі, Дзімітрый Баброк-Валынскі, а таксама князь Іван Дзімітрыевіч Скіндыр і князь Андрэй Дзімітрыевіч, пасынак ягоны; князь Іван Еўлашковіч; князь кіеўскі Іван Барысавіч; князь Міхайла Заслаўскі; князь смаленскі Глеб Святаслававіч; князі Глеб і Сямён Карыятавічы; Міхайла і Дзімітрый Падбярэзскія, Дзмітрый Астрожскі, Аляксандр Друцкі, Фёдар Патрыкеевіч Вольскі, Іван Бельскі, князь Ямантаўт ды іншыя. Забітымі на берагах Ворсклы засталіся шэраг польскіх рыцараў, у тым ліку кракаўскі кашталян Спытка, татарскі князь Тулунговіч. Вітаўт і Тахтамыш з рэшткамі войска ўцяклі, што іх і выратавала. Перамога ў гэтай бітве дазволіла татарскаму войску на чале з Тымір-Кутлуям зрабіць спусташальны набег на Кіеўшчыну і Валынь. Нягледзячы на гэта, Вялікае княства Літоўскае захавала кантроль над паўночным Прычарнамор'ем. Праўда, Вітаўту давялося зламаць свае ўласныя амбіцыі і адмовіцца ад планаў панавання над Маскоўскай Руссю.

Сапраўды, параза на Ворскле была цяжкай і фізічна, і маральна для насельніцтва Вялікага княства Літоўскага і яго гаспадара Вітаўта. Гэтая вайсковая катастрофа навучыла вялікага князя ставіцца без пагарды да татарскай моцы. З гэтага моманту Вітаўт як мудры кіраўнік ужо не ўцягваў вайсковыя сілы Вялікага княства Літоўскага ў міжусобіцы ў Залатой Ардзе, а спрабаваў вырашаць большасць сваіх праблемаў дыпламатычнымі намаганнямі. Цяпер ён імкнуўся засёдзь мець у барацьбе татарскіх кланаў за вяршэнства ў Ардзе сваіх стаўленікаў, якім час ад часу дапамагаў заняць ханскі трон. У «Пахвале Вітаўту», гістарычным творы XV стагоддзя, паведамляецца пра вялікую павагу з боку татараў да вялікага князя Вітаўта. «Аднойчы быў ён (Вітаўт) у...вялікім горадзе Кіеве, і прыслалі да яго сваіх пасланцоў вялікія князі ардынскія, паручаючыся верна служыць яму, і прасілі ў яго цара на царства, бо шмат вялікіх ардынскіх цароў служыла пры яго двары. І даў ён ім цара па імені Салтан. Той жа цар, які быў у Ардзе, учуўшы, што слаўны гаспадар Вітаўт паслаў свайго слугу на царства не пасмеў праціўіца яму, пакінуў царства і ўцёк. Салтан жа, прыйшоўшы ў Арду, сеў на царства паводле волі вялікага гаспадара Вітаўта і вельмі паслухмяна служыў яму ...» І далей татары падпарадкоўваліся хану, калі даведваліся, што яго падтрымлівае Вітаўт. Дзякуючы разумнай і дальнабачнай палітыцы князя, у пачатку XV стагоддзя ўплывы Вялікага княства Літоўскага ў паўночных Прычарнаморскіх стэпах умацоўваліся. Татары не толькі спынілі знішчальныя паходы на ўкраінскія землі ВКЛ, а пачалі рэгулярна прысылаць свае вайсковыя часткі для барацьбы Вітаўта з крыжакамі.

Няхай даруе мне чытач, але гісторыя часта прымушае параўноўваць мінулае з сучаснымі падзеямі. У адрозненне ад войнаў часоў Вітаўта, страшная Афганская вайна напрыканцы XX стагоддзя ніякім чынам не навучыла савецкае і постсавецкае кіраўніцтва рабіць высновы са сваіх дзеянняў. Таму неўзабаве мы пабачылі знішчальную вайну ў Чачні; таму сёння зноў вядуць рэй асобы, якія маніякальна кажуць пра нейкія вайсковыя пагрозы беларускаму і рускаму народам з боку Захада і ЗША.

**Генадзь Семянчук**

# Перарэгістрацыя: апошні этап

**Як вядома, тэрмін перарэгістрацыі грамадскіх аб'яднанняў быў падоўжаны на месяц - да першага жніўня. За гэты час дакументы на перарэгістрацыю падалі толькі два грамадскія аб'яднанні Гарадзенскай вобласці. У выніку са 155 грамадскіх аб'яднанняў, якія існавалі ў Прынямонні на момант пачатку перарэгістрацыі, жаданне перарэгістравацца выявілі 103.**

На дадзены момант перарэгістрацыю прайшлі 17 грамадскіх аб'яднанняў. Сярод іх - цэнтр міласэрнасці «Сем Я», камерны хор «Дойлідства», хакейны клуб «Нёман» ды Федэрацыя футболу Гарадзенскай вобласці. Такую інфармацыю мы атрымалі ад галоўнага спецыяліста па справах грамадскіх арганізацыяў упраўлення юстыцыі Гарадзенскага аблвыканкама Алега Сліжэўскага. Ён таксама паведаміў, што не так даўно ў Менск дасланы дакументы вядомых у Гродне грамадскіх аб'яднанняў «Ратуша» і «ВІТ».

На пытанне пра тое, што будзе з тымі аб'яднаннямі, якія не падалі дакументы на перарэгістрацыю (а іх - 52), спадар Сліжэўскі адказаў: «З першага жніўня, згодна з Указам прэзідэнта, яны больш не павінны існаваць. Аднак па закону грамадскія арганізацыі могуць спыніць сваю дзейнасць, калі яны не самаліквідаваліся, толькі па рашэнню суда. Таму іх чакае суд. А калі хто спасылаецца на тое, што не ведаў, - дык гэта няпраўда. Мы ўсіх папярэджвалі...»

У лік такіх арганізацыяў разам з Асацыяцыяй Трусаводаў трапілі Саюз Прадпрымальнікаў Гарадзенскай вобласці ды Гарадзенскі гарадскі Саюз Прадпрымальнікаў.

Згодна з інфармацыяй, атрыманай ад спадара Сліжэўскага, месяц таму ў Менску ўжо было перарэгістравана шэсць палітычных партыяў. Аднак ніводная да яго не звярнулася. Згодна з законам, яны павінны на працягу месяца пасля перарэгістрацыі ў Мінюсце пацвердзіць статус сваіх арганізацыяў на месцах. Выключэнне складае Партыя Камуністаў Беларусі, якая падала дакументы на пацвярджэнне 15 структураў па вобласці.

«Тэмпы перарэгістрацыі нарошчваюцца, - кажа Алег Сліжэўскі. - Да першага кастрычніка прэзідэнту павінны быць прадстаўлены спісы аб'яднанняў, якія не прайшлі перарэгістрацыю. Будзем укладацца ў тэрмін - прыйдзецца!.. Галоўнае, каб не было затрымкі з дакументамі з боку грамадскіх аб'яднанняў, каб яны аператыўна рэагавалі на нашыя заўвагі».

# З абітурыентаў - у студэнты!

**Скончыліся ўступныя экзамены, вывесілі спісы тых, хто паступіў. Гэта значыць, што надышоў час падводзіць вынікі.**

У ГрДзМІ ў гэтым годзе не было зарэгістравана ніводнай апеляцыі ад абітурыентаў. Гэта, як лічыць адказны сакратар прыёмнай камісіі Генадзь Мармыш, сведчыць пра высокі ўзровень прафесіяналізму выкладчыкаў медынстытута. Сёлета ў ГрДзМІ без экзаменаў была залічана пераможца рэспубліканскага конкурсу прафесійнага майстэрства Святлана Зайчыкава, а таксама два прызёры рэспубліканскага конкурса навуковых працаў выпускнікоў. Усе астатнія абітурыенты здавалі экзамены. Прахадны бал на ўсе факультэты, акрамя завочнага, які рыхтуе медсясцёр з вышэйшай адукацыяй, склаў 12,5. Але, як і штогод, прахадны бал для тых, хто паступаў па мэтаваму кантракту, быў ніжэйшым. Па асобных абласцях ён склаў нават 10 балаў. А ў цэлым, згодна са словамі спадара Мармыша, экзамены ў ГрДзМІ сёлета прайшлі спакойна: скаргаў ад студэнтаў не было, выпадкаў хабарніцтва, зразумела, таксама зарэгістравана не было.

Самую вялікую колькасць студэнтаў, як і заўжды, прыняў Гарадзенскі дзяржаўны універсітэт імя Я.Купалы. Усяго на бясплатнай аснове прынята 1187 студэнтаў: 919 на дзённую форму навучання, а 268 - на завочную і вячэрнюю.

У гэтым годзе конкурс па ўсіх спецыяльнасцях быў вышэйшым, чым у мінулым годзе. Аднак прахадныя балы на розныя спецыяльнасці адрозніваліся вельмі значна, у тым ліку, у параўнанні з мінулым годам. Прыкладам, на матэматыку прахадны бал склаў 11 з 15-ці (летась - 10,5), на экалогію - 12,5 з 15-ці (11,5), на псіхалогію - 13 з 15-ці (12). Затое, на нямецкую мову - 15 з 20-ці (летась - 17,5), на біялогію - 9 з 15-ці (10,5), на выяўленчае мастацтва - 18 з 25-ці (19,5).

Значную колькасць студэнтаў склалі медалісты - 33 працэнты ад агульнай колькасці паступіўшых (ці 309 абітурыентаў). Па мэтавай кантрактнай падрыхтоўцы было залічана 219 абітурыентаў. З сельскіх школаў паступіла 186 абітурыентаў. Сярод студэнтаў знайшлося месца і для грамадзянкі РФ, якая паспяхова здала ўсе экзамены і зараз будзе вучыцца на псіхолага.

У гэтым годзе універсітэцкімі абітурыентамі было пададзена 11 апеляцыяў, што на адну меней, чым у мінулым. Сем з іх - па матэматыцы. Прычым, у пяці выпадках адзнакі былі зменены на вышэйшыя. Здзіўляе толькі пазіцыя, якую займае кіраўніцтва ГрДзУ ў дачыненні да апеляцыяў. Так, сакратар прыёмнай камісіі Лілія Іванаўна Баброўнік настойвала на тым, каб гэтыя дадзеныя не публікаваліся: «Гэта ўнутраная інфармацыя. Навошта пра гэта пісаць?» Калі кіраўніцтва ГрДзУ лічыць, што апеляцыі з'яўляюцца плямамі на рэпутацыі універсітэта, дык тое, што інфармацыя пра гэта затойваецца, з'яўляецца яшчэ больш пададзроным.

У ГрСГІ сітуацыя, як высветлілася, яшчэ горшая. Прарэктар па выхаваўчай працы спадар Ж. спачатку адмовіўся даваць любую інфармацыю газеце ПАГОНЯ. Пазней ён матываваў гэта тым, што не хацеў бы ўбачыць сваё прозвішча ў нашай газеце, бо яна яму не падабаецца. Але ў рэшце рэшт спадар Ж. дазволіў нам паразмаўляць з адказным сакратаром прыёмнай камісіі Пятром Леонавым.

- У гэтым годзе план набору быў выкананы цалкам, - кажа спадар Леонаў. - Мы ўзялі 290 студэнтаў плюс яшчэ 60 выпускнікоў сельскагаспадарчых тэхнікумаў, якія праходзілі суразмовы па спецпрадметах.

Варта адзначыць, што сёлета 70 працэнтаў ад тых, хто паступіў у ГрСП (203 абітурыенты) - так званыя «мэтавікі-кантрактнікі». А розніца паміж агульным конкурсам, дзе прахадны бал склаў 9,5 з 10-ці на факультэт аховы раслінаў ці 12 з 15-ці на эканоміку; ды мэтавым наборам, дзе прахадны бал па асобных абласцях складаў нават 6,0 з 10-ці, вельмі значная.

Пётр Леонаў адзначыў высокі ўзровень падрыхтоўкі абітурыентаў з Гарадзенскай ды Брэсцкай абласцей. У сваю чаргу, веды абітурыентаў з Гомельскай ды Менскай абласцей, на яго думку, былі не заўжды дастатковымі, бо некаторыя абітурыенты нават не ведалі формулы вады.

Сёлета абітурыенты сельгасінстытута падалі тры апеляцыі: дзве - па дыктоўцы, адна - па хіміі. Прычым, на дыктоўцы адзнакі змянілі. Увесь час на экзаменах прысутнічалі 15 чалавек з камісіі па кантролю за ходам уступных экзаменаў. Ніводнага, нават самага дробнага, парушэння зарэгістравана не было.

Тое, што з 38-мі медалістаў, якія ішлі на эканоміку, 8 атрымалі двойкі па матэматыцы - трохі здзівіла.

- Ну, гэта і зразумела - там былі вельмі цяжкія экзамены: матэматыка вусна і пісьмова, - кажа спадар Леонаў. - Ці вось, напрыклад, дыктоўка. Я не бачу логікі - навошта даваць такую цяжкую? Мы што, філолагаў рыхтуем?

**Той, хто не трапіў у лік студэнтаў, мае магчымасць пайсці вучыцца платна, што не самае горшае. Застаецца толькі пажадаць бацькам студэнтаў болей грошай, каб вышэйшая адукацыя сына ці дачкі не стала нечым непад'ёмным.**

**Рыгор Кавальчук**

